## Зьмест



Нумар здан у набор 19-IV—32 г.

Падпісан да друку 5-V—32 г.

Адказны рэдактар Міхась Чарот.

Адказны сакратар Я. Шарахоўскі.

Нумар набран і зьвёрстан брыгадай імя 13-га Кастрычніка, па макету А. Тычыны.

Карэктар Ул Міхалевіч.

Клішэ выканаены пад кіраўніцтвам Кантаровіча.

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

АДРАС
РЭДАНЦЫІ,
САВЕЦКАЯ, 59
Тэл. № 17—03.

№ 7

КРАСАВІК
1932

## ПАЛЕПШЫМ РАБОТУ ТРАНСПАРТУ ПРАЗ СПАБОРНІЦТВА СПАРАНЫХ БРЫГАД






Ц. ДОЎГАПОЛЬСКІ

(з яўрэйскага)

На Беларуска-Балтыцкім вакзале Салантэра сустрэў сын. Бацька і сын налёгку ішлі ўсьлед за насільшчыкам, які быў нагружаны трыма вялікімі скруткамі.

Бацька на цэлую галаву вышэй за сына. На ім доўгаполая харковая шуба з добрага чорнага сукна і чорная купецкая шапка. Яго шырокая барада і валасы серабрацца сівізной.

Сын у замяшанасьці круціў у руках газэту, ня ведаючы, як яму абыходзіцца са сваім бацькам. З аднаго боку, трэба выказаць бацьку належную павагу, а з другога тут на вакзале час ад часу сустракаюцца саслужыўцы, якія могуць зьмеціць пра яго соцыяльнае паходжаньне. Яму хацелася каб ніхто аб гэтым ня ведаў... Асабліва цяпер перад праверкай.

Шмат хто ўважліва аглядвалі Салантэра — бацьку. Адны са зьдзіўленьнем, другія з павагай. У Маскве, як і ўсюды людзі адразу дагадваюцца, што Салантэр ня хто іншы, як рабін.

Салантэр — бацька ішоў разьмераным крокам плячыстага шасьцідзесяцігадовага старога. Ён няўпэўненым поглядам глядзеў наперад каб, пазьбегчы сустрэчных зіркаў. Яму здавалася, што ён быў об'ектам усеагульнай увагі і гэта выклікала ў яго пачуцьце гонару, давольства, што і ў Маскве ён той-жа Салантэр і што сын яго займае высокае палажэньне па службе.

Бацька і сын узялі рамізьніка і ўселіся поплеч. Тут можна было пагутарыць адкрыта.

— Ну што чуваць?—запытаўся сын.

— Я павінен быць удзячным богу, што вырваўся на вялікадне з іхных рук.

— Што яны табе...

— Ты-ж ведаеш, будынкі яны не нацыяналізавалі. Але вышла яшчэ горш — усё плаці, ды плаці, ды яшчэ і кватырантаў бяры. Ды якіх кватырантаў! Комуністаў!

— У якіх яны пакоях?




Бацька і сын узялі рамізьніка.

Малюнкі М. Пашкевіча

— У зале і ўсё ў іх як на далоні. Ні людзей прымаць, ні „цяжбы" разглядаць *). Дрэнь справа, што і казаць! Жанчыны баяцца заходзіць да мяне за парадамі па рэлігійных пытаньнях.

Яны ўехалі ў глухі завулак. З двух бакоў стаячых цэркваў высыпалі ім насустрач бабулькі, якія вярталіся з вячэрні. Ля самых варот дому, да якога яны пад'ехалі, іх сустрэў поп, шырокаплечы, моцны, высокага росту мужчына. На дварэ ўжо згусьціўся змрок. Поп спыніўся, далікатна прапускаючы наперад Салантэраў з рэчамі.

— Ён таксама жыве тут?—запытаўся бацька.

— Так, айцец Інакенці жыве ў гэтым доме.

— На якія сродкі?

— Цэрквы-ж працуюць—вось ён і корміцца... Ён жыве ў сына.

Нявесткі дома ня было. Дзьверы ім адчыніла хатняя работніца. Пазнаўшы старога Салантэра яна шырока раскрыла вочы ад зьдзіўленьня. Салантэр распрануўся, памыў рукі, расчасаў сваю шырокую сівую бараду, і пацмоўшы да ложку ўнука, уважліва разглядаў яго. Дзіця весела баўтала ножкамі.

— Вось гэта добра, сын мой,—сказаў бацька... Хірург зрабіў.

Сын нічога не адказаў і бацька больш не запытваўся пра гэта.

Калі малады Салантэр пашоў, нявестка кормячы дзіця грудзямі, прадэмонстравала перад сьвёкарам абрэзанае месца на цельцы дзіцяці.

Але Салантэр разумней за сваёй нявесткі. Маўчаньне сына было для яго дастаткова пераканаўчым, і ён кіўнуў галавою ў адзнаку, таго, што ён ўсё ужо бачыў.

З вакон пакою Салантэра відна кватэра Інакенція. Днём, калі сонца сьвеціць на вокны папа, Салантэрам відна ўсё што робіцца ў кватэры папа Інакенція.

Ля вакна стаіць стары Салантэр. Стаіць ля вакна і поп Інакенці. Абое глядзяць адзін на аднаго Салантэр у ярмолцы. Інакенці з непакрытаю галавой, з рэдкімі доўгімі завітушкамі, якія спускаюцца ніжэй плеч.

Дакуль-жа стаяць і глядзець адзін на аднаго? Але нічога не паробіш—вабіць. Зацікаўленасьць апанавала абодвымі. Ім абодвум хочацца прывітацца. Але Інакенцію здавалася, што Салантэр за дешта разглаваўся на яго, а Салантэр думаў, што айцец Інакенці затаіў у сэрцы злосьць на яго.

Аднак сумненьні скора расьсеяліся. Салантэр першы па руску сказаў прывітаньне, хоць і знаў, што яно не магло даляцець да вушэй суседа. Інакенці адказаў спакойнай папоўскай усьмешкай, а потым абое аднačасова адышлі ад вакон.

У суботу пасьля малітвы Салантэр вышаў на вуліцу аглядаць Маскву. Далёка ён не пайшоў: прайшоўся па сваім завулку і спыніўся ля царкоўнай агарожы.

Сонца па-вясеньняму грэла. На бруку было суха. Дзеці забаўляліся ля ручаёў, што ўтварыліся ўздоўж тратуараў. Грудныя дзеці ляжалі ў калясках і ўдыхалі ў сябе вясеньнюю цяплыню сакавіковага ў цяні яшчэ марознага раньня.

Салантэр падняў галаву і стаў разглядваць званіцу.

Столькі званоў, і маленькіх і вялікіх, а ня звоняць,—падумаў ён, і засумаваў па родным горадзе з яго цэрквамі і перазвонамі званоў.

Глыбока задумаўся стары рабін і не заўважыў нават Інакенція, які праходзіў міма яго. Поп у недаўменьні. На твары Салантэра напісаны глыбокі смутак. Ён засмучаны тым, што ня звоняць званы. Дык чаму-ж гэты рабін адварочваецца ад яго, ад айца Інакенція? У чым справа? Што гэта за яўрэйскія штучкі? Знае ён іх, гэтых яўрэяў яшчэ з 1905 году, з часоў пагромаў.

Інакенці павярнуўся да Салантэра. Так і ёсьць — добры твар. Пасьля кароткага раздум'я Салантэр міргнуў вокам і неяк нялоўка кіўнуў галавою. Інакенці адказаў няпоўнай застылай усьмешкай.

— Сапраўды, у гэтага бацюшкі добры твар, падумаў Салантэр і зрабіў крок у напрамку да Інакенція.

Інакенці:—Да сына прыехалі?

Салантэр:—Да сына.

— У вас сінагогі адбіраюць?

— А як-жа, не адбіраюць.

— І гэту царкву сабіраюцца... адбяруць...

Па перавулку крайшоў атрад піонэраў. У барабаншчыка азызьлі рукі і ён іх рытмічна падносіў да роту, дзякуючы чаму барабанны бой не пасьпяваў за дзіцячымі крокамі. Важаты першы ўбачыў абодвых прыяцеляў і спакусьлівая ўсьмешка дарослага чалавека зьявілася на яго дзіцячых вуснах. Іншыя піонэры таксама заўважылі таварышоў-прыяцеляў, але тактычна прайшлі міма гэтага відовішча братаньня



Салантэр стаў разглядваць званіцу

папа з рабінам, столькі нязвычайнага ў гэтым глухім завулку з яго двума сярэднявяковымі прыземістымі, тоўстасьценнымі цэрквамі.

Міма з кіноапаратам прамчаўся фордзік. Опэратар нацэліўся апаратам на піонэрскі атрад і шпарка закруціў ручкай.

Інакенці першы адступіўся, уцякаючы з поля зроку опэратара. Салантэр памкнуўся быў усьлед за ім, але шофэр стаў ім на дарозе.

— Добра! — выкрыкнуў опэратар, паварачваючы апарат то налева, то направа.

— Вышла! Проста добра!

— Выручыў ты нас, брацец. Вось дык кадр...

Салантэр атрымаў з дому няўцешны ліст: не толькі ня можна выслаць у Маскву мацу, а наадварот, правінцыя сама чакае з Масквы мацы.

Да Салантэра зайша з візітам бабулька, якая даведалася, што іх завулку зрабіў чэсьць сваім прыездам рабін Салантэр.

— Нам выпала на старасьці год быць на ўтрыманьні дзяцей... сказала бабулька. — Але бог нас не пакідае сваёй міласьцю. Мы маем тут недалёка рэзьніка, а цяпер бог нам паслаў і рабіна. Вось дык шчасьце...

— Вялікадне вы, рабін, бязумоўна тут сьвяткаць будзеце? Дзеці ў вас, дай бог усім яўрэям такіх!

Нявестка прышла з рынку.

— Бацька!—сказала яна, — у мінулым годзе муку на мацу купілі ў папа.

— Мука была сухая?

— Вядома сухая.

— Чаму-ж не?.. Цяпер у яго ёсьць мука?

— Бязумоўна ёсьць.

— Вось як!

У наступны вечар Інакенці бачыў у вакно, як ярка пылала ў Салантэраў печ, і як малады Салантэр засукаўшы рукавы, саджаў у печ тонкія круглыя лісты цеста і вымаў сьвежа сьпечаную мацу.

Нявестка Інакенція, якая дапамагала качаць цеста, прынесла некалькі гатовых праснакоў дамоў і дала Інакенцыю паспрабаваць.

---

*) Веруючыя яўрэі часта зьвяртаюцца да рабіна, як да трацейскага судзьдзі, для разгляданьня ўзаемных цяжбаў, што дае рабіну значныя даходы.

Разжоўваючы хрусьцеўшую ў роце мацу, Інакенці вымавіў:

— Зачасьцілі яўрэі да нас у завулак. Харошыя часы для іх надышлі.

Праз некалькі дзён у Салантэраў усё было гатова для спатканьня сьвята. Старога Салантэра пасадзілі ва ўрачыстапаноўнае крэсла. Малады Салантэр ва ўгоду бацьку ўвесь час сядзеў за сталом у шапцы і старанна перагаварваў пасхальныя сказаньні. Нявестка гаспадарыла на кухні, бо хатняя работніца была ў гэты дзень выходная.

— Хваробу я ёй пакіну, а не галушкі, — думала пра сябе гаспадыня-нявестка, — „Хто не працуе, той і ня есьць".

Інакенці стаяў на двары і пазіраў у вокны кватэры Салантэраў. Перад вымаўленьнем слоў „вылей гнеў свой на іназерных" Салантэр задумаўся. Грэшныя мысьлі заварушыліся ў яго галаве: што азначаюць гэтыя словы?..

Напэўна тут бальшавікі маюць рацыю. Што дрэннага робіць мне іназерны, што дрэннае зрабіў мне хаця-б айцец Інакенці? Гэта, мабыць, плёткі, што Інакенці ў 1905 годзе ў Екацярынаславе... Не, слова „вылей гнеў на іназерных" у сучасны момант трэба разумець зусім інакш.

— Ой, госпадзі, уладыка сьвету, божа міласэрдны. Вылей гнеў свой на іназерных. Ты-ж ведаеш, да каго гэта датычыцца...

Як раз у той момант, калі Салантэр з запалам вымаўляў апошнія словы, дзьверы адчыніліся, і ў комнату ўвайшоў Інакенці.



Інакенці пазіраў у вокны кватэры Салантэраў.

Ён жэстам папрасіў іх не турбавацца.

— Вітаю з сьвятам. Хай пашле вам бог сваё благаславеньне. Маліцеся, маліцеся. Я хоць раз у жыцьці хочу паглядзець як моляцца яўрэі, як мой колега—яўрэй моліцца.

Цікавасьць Інакенція была не па душы Салантэрам. Усе падняліся з месца. Малады Салантэр зьняў з галавы кепку і прапанаваў сваё крэсла Інакенцію. Маладая гаспадыня прыветліва выказала сваё зьдзіўленьне.

З такога ня зусім прыемнага становішча вывела іх хатняя работніца. Яна з шумам уварвалася ў пакой:

— Музыка! Дэмонстрацыя ля царквы!

Малады Салантэр адчыніў фортку. У пакой паліліся гукі аркестру і выгукі дэмонстрантаў. Інакенці няпрыкметна зьнік, і ніхто больш не перашкаджаў Салантэрам спраўляць вялікадне.

Здавалася і на двары было сьвяточна ў гэту вясеньнюю ноч. І ўсё-ж у Салантэраў парушана ўрачыстаць вялікоднай трапезы.

Сьвята сапсавана.

— Чаму-ж?

— Ды на самай справе, чаму?

Бо яны яшчэ й ня ведаюць чаму так гучна сьмяецца хатняя работніца, разглядаючы часопіс „Безбожнік", дзе на відным месцы красуюцца портрэты Салантэра і Інакенція ў розных позах.

Дык чаму іх сьвята сапсавана? Чаму?

---

Я. ЕРМАЛОВІЧ

# ДА СЯЎБЫ ГАТОВЫ

Прастор,
    праталіны...
        Зіма,
На поўдзень крыгамі адчаль!
Сяўбу колгас наш „Першамайск"
Гатоў хоць сёньня распачаць.

Шчэ ўчора трыер
    — позна, позна —
Глушыў наўкольле тарахценьнем...
Цяпер пратручанае збожжа
Чакае мяккае пасьцелі.

Узмах—і стук...
Зьлятаюць трэскі...
Вышэюць сьцены стайні новай.
Наўсьцяж—ад вёскі і да лесу —
Укрылі поле кучы гною.

Каб абавязкі,
    без загадаў,
Усякі знаў свае зарані—
Мы склалі сталыя брыгады,
І кожнай з іх далі заданьне.

Бо дні пасеўнае пары
З хвілінай кожнаю—прыметней.
Узараўшы поле, трактары
Паклічуць сеялак на зьмену.

⁂

Узьлётам новых перамог
Зьвінелі песьні баявыя,
Як мы вярталіся дамоў,
Зрабіўшы ў поле пробны выезд.

І стук сякер,
І піл напеў
Да ночы ў небе каруселяць.
Даўно ў сумоце
    па сяўбе
Набухла ўсхожасьцю насеньне.

Што дзень—
    бліжэй, бліжэй вясна,
Расьце матораў траскатня.
... І будзе гнуцца ярына
Пад алавянасьцю зярнят.

**ОРГАНІЗАЦЫЯЙ МОЦНЫХ ВЫТВОРЧЫХ БРЫГАД, ЛІКВІДАЦЫЯЙ АБЯЗЬЛІЧКІ, СВАЯЧАСОВАЙ ЗАСЫПКАЙ НАСЕНЬНЯ, АЎЛАДАНЬНЕМ АГРАТЭХНІКАЙ УМАЦУЕМ КОЛГАСНУЮ ВЫТВОРЧАСЬЦЬ, ЗАБЯСЬПЕЧЫМ ПЕРАМОГУ ТРЭЦЯЙ БАЛЬШАВІЦКАЙ СЯЎБЫ!**

# КОИДАНАЎСКАЯ МТС АДРАМАНТАВАЛА МАШЫНЫ К ТЭРМІНУ

Фото Грына



Лепшы ўдарнік—каваль т. Трыч



Рамонт апошняга трактара



Ударнік т. Станкевіч



Будучы старшы рулявы, колгасьніца Т. Грамовіч (колгас „Комінтэрн“)

АНДРЭЙ УШАКОЎ

# ЗА ТЭХНІЧНУЮ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

НАРЫС

На неачышчаны фабрычны двор з-за рову, з-за рэдкіх альховых кустоў ад Дзьвіны, нячутнай хадой насоўваецца сьнежаньскі вечар і белыя фабрычныя карпусы ахінае вадкай шэраньню фарбаў.

Чатыры гадзіны. Скончана праца першай зьмены. Гофман сьпяшаецца ў кантору. Трэба ўбачыць дырэктара і парадзіцца наконт монтажу рамонтнай майстэрні.

У доўгім калідоры канторы яшчэ цямней, чым на дварэ. Пахне падсохшай вапнай і фарбамі... Рукой намацаў ручку дзьвярэй і ўвайшоў у габінэт дырэктара. У ліпкай зморы апусьціўся на крэсла і прабасіў:

— А я да вас...

Толькі тады заўважыў, што ў пакоі няма дырэктара і быццам ня верачы гэтаму ўсхапіўся і хуценька павярнуў выключацель. Сьвятло заліло пакой. Зноў вачыма абвёў пакой і стомлены апусьціўся ў крэсла, наважыўшы чакаць дырэктара, бо няпрыбраныя са стала паперы сьведчылі, што дырэктар адлучыўся не на доўга.

Па прывычцы вочы корпаюцца ў паперах, потым нярухома спыняюцца на адным месцы. Выраз твару зьмяняецца; куткі вуснаў хацелі расплыцца ў шырокую шчасьлівую ўсьмешку, але насупіліся густыя бровы і завяла нерасьцьвіўшая ўсьмешка, твар прыняў дзелавы выгляд, нават крыху суровы. Гофман зноў спачатку прачытаў паперку.

... Прапануецца дырэкцыі безадкладна наладзіць на фабрыцы аўтогенную і электрычную зварку, таму што... Далей ён ня чытаў. Ледзь ня ўгрунь, камляваты, каціўся ўніз з лесьвіцы, хутчэй паведаміць навіну свайму памочніку—Лысюку. Па дарозе сустрэў дырэктара. Сьпяшаючыся нават не заўважыў яго. Той хацеў яго спыніць, штосьці сказаць, але Гофман быў ужо на першым паверсе. І дырэктар яго не паклікаў. Ведаў—калі Гофман чым небудзь захоплен,—дарэмна спыняць. У яго вялікая ўпартасьць. Ён тады ўсёю істотаю аддаецца справе. Гэту ўпартасьць ён набыў у баёх з пятлюраўцамі, з палякамі, з Булак-Булаховічам. Цьвёрдаю рукою вадзіў ён бранявікі ў атаку супроць ворагаў. Гэтая ўпартасьць, упартасьць чырвонага партызана засталася на ўсё жыцьцё. Упартасьць плюс унівэрсальная профэсія (сьлесар, каваль, шофэр, машыніст, токар, мэханік і аўтагеншчык) зрабілі з яго добрага загадчыка рамонтнай майстерняй, рацыяналізатара-гаспадарніка, партыйца.

— Братка, справа ёсьць, безадкладная—во! Бачыце? Гофман узьняў угору і паказаў паперку—з самага цэнтру! Хадзі, абмяркуем.

— На другім паверсе рамонтнай майстэрні ў чырвоным кутку абмяркоўвалі.

— Памяшканьне ёсьць. Але чым абсталёўваць, не хапае галоўнага—зварачнага апарату. Гэта самім не зрабіць. Тонкі выраб!..

— Але-ж мы павінны дамагчыся свайго! Тым больш, што ты аўтагеншчык.

— Заўтра-ж пачнем з месца ў кар'ер, з бальшавіцкім націскам.

* * *

Гэльфан—інжынэр электрык. Ухутаўшы галаву ад ветру ў каўнер паліто, ён ідзе з канторы ў рамонтны цэх праз гурбы сьнегу. Глядзіць у бок лесазаводу. Успамінаецца: позьняя восень. Па загаду ВСНГ ён перакінуты з фабрыкі „Дзьвіна“ для электрамантажу на панчошную фабрыку „КІМ“.

... Дровы ў кацельны пры возяцца з лесазаводу на фурманках. Марудна, з перабоямі. Тады зьявілася думка, каб падвозку паліва мэханізаваць, пабудаваць электравоз. Дырэкцыя гэты проект ухваліла, даручыла правесьці ў жыцьцё. А зараз—от—сьнег перашкодзіў.



Ачыстка ільнонасеньня ў калгасе „На варце“ Крычаўскі р.



Лябораторныя работы па дасьледваньню ільну.

Калгасьнікі прывезьлі ільносыравіну на завод у Крычаў.



Фото Семенякі

Ля дзьвярэй рамонтнай вырас Гофман:

— А я па цябе ішоў. Парадзіцца трэба, паперка ёсьць. Абмяркуем, ты-ж электрык, а я нічога ня цямлю ў гэтай справе. Прапанавалі адчыніць на фабрыцы электро і аўтагенную зварку. Я ўжо сёньня з Лысюком хадзіў глядзець у дэпо, як там гэтая справа наладжана. Добра-а-я штука. Сабе-б гэткую. Толькі восьць—апарату няма.

Гельфан прачытаў паперку.

— Вы толькі падумайце, столькі эканоміі. Вязальныя голкі прывозім з-за мяжы. Золатам за іх плоцім. Потым голкі ламаюцца і выкідваюцца. На фабрыцы Клары Цэткін назьбіралася гэткіх голак дзьве тоны. А мы іх зварваць будзем. Дзьве тоны зварыць— і імпорт не патрэбен.

— Хутка капіталістам скажам: — Вашы голкі нам больш не патрэбны. У нас свае ня горш вашых. Ужо проект сваіх вязальных голак ёсьць на Віцебскай голкавай фабрыцы.

— А колькі ламаецца частак машын! Таксама зварваць будзем. Зварыў і зноў працуй машына! Запасных-жа частак з машынамі не дасылаюць.

— Пэрспэктывы шырокія—патрэбен пачатак, устаноўка. Трэба змагацца за сваю тэхнічную незалежнасьць ад капіталістычных дзяржаў. Каб перагнаць самыя перадавыя замежныя дзяржавы — трэба мець добрую тэхніку, бо тэхніка ў пэрыод рэконструкцыі, як сказаў т. Сталін—рашае ўсё.

* * *

У чырвоным кутку сядзіць Лысюк. Твар бледны. Праз чорнае шкло акуляраў узіраецца на паперу, крэсьліць па ёй, абмяркоўвае. Ён сакратар парт'ячэйкі мэханічнага цэху, да таго-ж вытворчая праца. Цяжка працаваць. Але з-за недахопу майстраў партыя загадала яму працаваць і ён сумленна, аддана працуе.

Лысюк—упарты працаўнік і добры гаспадарнік. Яго два разы прэміявалі за вынаходніцтва. Удвох з Гофманам прыстасавалі выраб запасных дэталяў бакавых замкоў для вязальных машын. Цяжка было. Нябыло стругальнага варштату. Колькі раз аб гэтым адміністрацыі казалі, а яна ўсё ня купляла. Бяз гэтага варштату давоздзілася тоўстыя жалезныя балванкі апільваць напільнікам. Тады яны зрабілі прэс для кавалёў, каб бакавыя замкі—штампаваць...

— ... Жывём братка!—паведамляе Гофман яшчэ на парозе навіну свайму памочніку.—Знайшлі!

— Дзе?

— У аўтабазе. Ляяцца давялося. Ёсьць зварачны апарат. Ім непатрэбен і нам даць не хацелі. Але—націснулі. Дамовіліся,—тлумачыць Гельфан.

— Глядзі, а ў яго ўжо проект гатовы! Конструктар!

Усе трое схіляюцца над проектам.

— Добра надзвычайна. Добра! Трэба зараз-жа рабіць яго—прапануе Гофман.

Праз некалькі дзён на варштаце стаяў зроблены апарат—дзьве доўгія паласы жалеза раўналежна склёпаныя планкамі. На палосах прымацаваны адзін супроць другога рад маленькіх пласказубцаў, якія шрубамі раздымаюцца і сьціскаюцца. Вось голку ўстанаўліваі, адзін канец у адны пласказубны, а другі — у другія, а пасярэдзіне зварвай. Гэта для аўтагеннай зваркі, а для электрычнай, асабліва зварваць не электронамі, а вольтавай дугой—так зварваць няпрычна. Гэты апарат Гельфан потым удасканаліў і для электразваркі.

— 600 голак у дзень,—калі варыць электразваркай, а з аўтагеннай разам можна тысячу даць. Толькі спраўляйся станавіць голкі. Потым пад шліфавальны камень, і працуй голка, будзь здарова, не ламайся. А зламаецца ў другім месцы — можна яшчэ зварыць.

— Ведаеш Лысюк, са зваркай справа наладжваецца. От я хачу арганізаваць комсамольскую брыгаду з некваліфікаваных рабочых. Вывучу іх. Хлопцы ў нас—што трэба—старанныя!..

І Лысюк ведае, што раз сказаў,—будзе зроблена.

— Ну, ну, давай новыя кадры! — ён па сяброўску хлопае па плячы нізкарослага Гофмана.

— Трэба авалодаць вышнямі тэхнікі, змагацца за сваю тэхнічную незалежнасьць.

г. Віцебск 1932 г.



Калгасьніцы колгасу „Заветы Леніна" атрымоўваюць малако

Фото Семенякі



Дасьледваньне малака на колькасьць тлушчу ў колгасе „Заветы Леніна"

**Максымум у дзесяць год мы павінны прабегчы тую адлегласьць, на якую мы адсталі ад перадавых краін капіталізму.** СТАЛІН.

**Наш лад, савецкі лад, дае нам такія магчымасьці хуткага прасоўваньня наперад, аб якіх ня можа марыць ні адна буржуазная краіна.** СТАЛІН.

# ДРУГІ ЎСЕБЕЛАРУСКІ ЗЬЕЗД ЛІТОЎЦАЎ

Фото тав. Няўры



Дэлегатка, лепшая ўдарніца—калгасьніца т. Юр'екева



Камісія па распрацоўцы рэзалюцыі



Дэлегатка Дакальская на трыбуне



Адзін з сакратароў ЦК т. Жаброўскі



Старшыня ЦВК БССР т. Чарвякоў на зьезьдзе



Дэлегаты слухаюць даклад



Прэзыдыум зьезду

**Перамога саветаў і ўстаноў дыктатуры пролетарыяту зьяўляецца той базай, тым фундамантам, на аснове якога можа быць пабудавана братэрскае супрацоўніцтва народаў і адзіны дзяржаўны саюз.**

**СТАЛІН.**

ГЭЛМУТ ВАЙС

# МАШЫНА ЗЛАМАЛАСЯ

Дождж ішоў другі дзень. Страшэнна студзёны, марозьлівы лістападаўскі дождж. Шаша абязьлюднела. Дождж ішоў бязупынна.

Эндлер засунуў рукі глыбока ў кішэні. Але яны не сагрэліся. Абшарпаная тканіна прамокла ўшчэнт. Эндлер зранку быў у дарозе. Ішоў, нідзе не прыпыняючыся.

Усіх іх яшчэ на цямочку, а шостай гадзіне, выгналі з начлежнага дому, як-быццам таму, што там ня было ўжо вугалю, ня было чым паліць. Ім на дарогу не далі нават звычайнай шклянкі кавы, праўда, яна толькі так называецца, а з выгляду і смаку больш падобна на памыі. Але сягоньня не далі нават і гэтага. Загадчык Дому кінуў ім проста—марш! Пара шпэкйегэраў пайшла ў адваротным кірунку. Эндлер пакрочыў далей адзін.

Пажраць тут, відавочна, ня ўдасца нідзе. У абодвых пасёлках, яму ня ўдалася дастаць нават скарынкі хлеба. Куды ён ні стукаўся ўсюды быў адзін адказ:

— Беспрацоўны...—казалі дзевяць дзесятых людзей і хаваліся зноў у свае халодныя хаты.

— Ты-б нам сам яшчэ даў!—у большасьці выпадкаў ківалі жанчыны галавою, а мужчыны проста панура і моўчкі хаваліся ў хаты.

Па дарозе яму сустракаліся толькі рабочыя пасёлкі. Цэхі за выключэньнем трох-чатырох замёрлі. Служачыя былі звольнены. З комінаў старых баракаў нідзе ня віліся стужкі дыму. Вугаль, які бескарысна ляжаў у высокіх штабялёх, быў недаступна дарагі, як і наогул усё.

Эндлер адчуваў як яго кішкі лемантавалі ад болю. Калі ён праглынуў дзьве булачкі была адзінаццатая гадзіна. Крамы пазяхалі паражнечай. Эндлер нешта прамармытаў. Яго язык паволі нямеў.

— Працы захацеў?—рагатаў гандляр за прылаўкам.—Не, працы цяпер ня знойдзеш... але сьперці што-небудзь зможаш.

Эндлер адразу ня ўцяміў, што значыў гэты глупы жарт. Ён моўчкі пракаўнуў сухі кавалачак булкі, але хіба гэтым пад'ясі. Дождж ліў як з вядра. Эндлер страсануў ваду з сьвіткі і пакрочыў далей. Ён ледзьве перасоўваў ногі. Падэшвы пачалі разлазіцца.

Ісьці жабраваць па хатах была дарэмная справа.

— Ты-б нам сам яшчэ даў!—разводзілі яны рукамі.—Вось, на Іогане-Луізе ізноў звольнілі паўтысячы людзей. Нашага брата простым шляхам: з пракаткі—на вуліцу...

У некалькіх сялянскіх хатах яму нават не адчынілі дзьвярэй.

— Гарняк!—сьмешна. А ў канторы па найму рабочых на яго зірнулі такімі вачыма, як-быццам ён зьявіўся з таго сьвету.

— Ваша імя?

— Гэнрых.

— Спэцыяльнасьць?—

— Сьлёсар.

— Так. Вы-б яшчэ чалавек дваццаць з сабой прывялі!—блінулі акуляры за вакенцам.

Праклятае бурчэньне ў жываце. Эндлер мэханічна перасоўваў ногі, стараючыся абмінаць лужыны. Дарэмна ён шукаў сухога месца для рук у кішэні. Усё прамокла ўшчэнт. Шаша здавалася бясконца доўгай. Гадзіны праходзілі пакуль яму трапіцца такі самы як ён шпэкйегэр.

— Здароў!—абыякава віталіся яны не супыняючыся.

— Што чутно там?—толькі запытаўся Эндлер.

У адказ той толькі сплюнуў.

Эндлер не адчуваў, як ён кусаў свае губы. Гэта ўжо не балела, нават не выступала кроў. Думка аб тым, каб хоць што-небудзь зьесьці, выціснула ўсе іншыя пачуцьці. Каб хоць адзін раз пережыць гэта шчасьце...

Ён стомлена крочыў далей па выбітаму бруку. Падэшвы рыпелі ў такт. Бурчэньне і дождж ня сьціхалі.



Здымкі Саюз фота.

Сеялка для гародных культур вынайдзеная т. Герасімовым (Іванаўская вобласьць).



Асоавіяхэмаўскі атрад саўгасу ЗРК Саратаўскага заводу камбайнаў па барацьбе са шкоднікамі.



Партыю новых сеялак атрымаў калгас „Верны Путь" ЦЧО.

— Гэй!—раптам закрычаў нейкі голас.

Гэты голас вывеў Эндлера з задуменьня. Што ён мог значыць? На павароце стаяў аўтамабіль. Раскошны дарагі лімузін.

— Дарагая штучка...—нрабегла ў мазгох Эндлера думка.

Паміж чамаданамі на скамечанай коўдры ляжала нейкая пані. Эндлер пытліва азірнуўся.

— Гэй!—закрычаў той самы голас, нецярпліва

Толькі цяпер заўважыў Эндлер, што каля машыны капаўся прысеўшы на карачках нейкі чалавек. Але відаць было, што ён ня вельмі разумее сваю справу. Ён ухапіўся за пад-

Фото Семенякі



Ачыстка насеньня ў колгасе „Чырвоны партызан“, Крыч. р.



Саўгас „Добрае“ атрымлівае насеньне, Мсьціслаўскі р.

Засыпка насеннага фонду ў колгасе „На варце“, Крычаўскага р.



ножку і выпрастаўся аддуваючыся. Эндлер убачыў гладкі чырвоны ўспацелы твар. Клапатліва прыглажаны прабор быў і цяпер яшчэ, як і раней просты як сьвечка. Толькі складкі на спартыўных нагавіцах трохі памяліся і на каленях чарнелі дзьве сырыя плямы. Усё іншае зіхацела бездакорнай акуратнасьцю.

— Орыгінальна—падумаў Эндлер.

— Ці ня будзеце вы ласкавы зірнуць у чым там іменна справа—няўважліва кінуў яму тоўсты франт, як быццам ён здагадаўся, што яго спадарожнік разумее нешта ў машынах. Ён хутка абцёр плямы насоўкай.

— Орыгінальна,—ізноў падумаў Эндлер.—Добра,—ледзьве рашчапіў ён свае анямелыя губы.

Тоўсты пан сеў у машыну і кіўнуў.

— Так, гэта вельмі далікатна з вашага боку,—працадзіў ён скрозь зубы. І праз адчыненае вакно Эндлер пачуў уздых аблягчэньня і мяккі жаночы голас.

— Божа, якое шчасьце!

— Эндлер падзьмуў на свае акалелыя пальцы і папоўз пад лімузін. Мэханізм быў здорава пераблытаны.

Эндлер распасьцёрся на зямлі, не зважаючы, што яго і без таго абшарпаныя порткі ўшчэнт замазаліся аўтолам і гразьзю, а сьвітка лопнула. Ён з запалам круціў і шрубаваў мэханізм матора, замацоўваў раз‘ехджаныя мутэркі і абціраў жалезныя часткі анучаю, намочанай у газе. На гэты момант ён забыў, нават, бурчэньне і боль у жываце.

Праз чвэрць гадзіны ён выпрастаў сваё анямелае цела і адсоўваючыся стаяў з завезганымі рукамі.

— Гатова!—выпаліў ён.

— Гатова—весела паўтарыла пані свайму спадарожніку.

— Так! Вялікае дзякуй!—кіўнуў гладкі пан і з задаволеным выглядам выцягнуў папяросу.

Эндлер утаропіўся на яго. Ён не разумеў, што гэта значыла. Ён нясьмела астанавіўся перад лімузінам і аглядзеў сябе з ног да галавы.

Жах—што зрабілася з яго адзінай старой адзежынай. Усюды заплямлена завезгана, на левым рукаве трыкутнік, локці зусім пprашараваліся. З замурзаным тварам і завезганымі пальцамі ён мабыць выглядаў як птушынае пугала.

Эндлер уставіўся на пана, які сядзеў у машыне. Ён нечага чакаў.

— Данке шён!—нецярпліва крыкнуў той, як быццам Эндлер не разумеў. Відаць было, што ён з прыемнасьцю паехаў-бы. Але навошта замінае на дарозе гэта мурзатая чалавечая постаць?

Эндлер чакаў. Ён усё яшчэ нечага чакаў.

Ён падышоў яшчэ на крок бліжэй да машыны. Ён нечага палка чакаў.

Гладкі пан зачырванеўся.

— Ну, у чым яшчэ справа?—запытаўся ён рэзкім раздражнёным голасам.—Што вам яшчэ трэба?

Эндлер раптам адчуў унутры ракатаньне грому. Бурчэньне, гэтае праклятае бурчэньне ў жываце. Яго думкі пераблыталіся. Дзьве булачкі, прапашчы гарнітур. Праца ні за панюшку табакі—бурчэньне, праклятае бурчэньне.

— Ну, дык што вам, уласна кажучы, трэба?..—ізноў крыкнуў гладкі пан.

Эндлер усё яшчэ чакаў. Твар яго раптам скрывіўся.

— Голад!—прамырмытаў ён—і сам спужаўся свайго ненатуральна-зычнага голасу. Ён падышоў яшчэ бліжэй да лімузіну.

Гладкі пан пасьпешна выцягнуў нешта з кішэні.

— На!—сказаў ён сунуўшы Эндлеру ў руку.

Эндлер упіўся вачыма ў сваю зашмальцованую чорную спрацаваную руку. Ён падняў яе пад самыя вочы і напружана разглядаў.

Дваццаць фэнігаў.

— Чаго вы яшчэ чакаеце?—абурана зарычэў на яго пан і ўключыў матор.

— Якая няўдзячная сволач!—абурана кінула дама і падняла ваконную шыбу.

Гладкі пан зачырванеўся, як рак. На шыі запрыгаў кадык.

— Ну, чаго вы яшчэ чакаеце?! Патрэбны грошы, бо хочацца выпіць?! Па дзесяць марак за кожны раз, што дакрануўся рукою, так?—яго голас перарываўся.—Прэч з дарогі!

Эндлер стаяў нярухома.

Тоўсты пан заходзіўся лаянкай.

— Прэч з дарогі!

Эндлер зусім супакоіўся. Такім спакойным ён ня быў раней ніколі.

На краю шашы нешта ляжала. Нешта іржавае, доўгае, цяжкае. Па ім барабаніў дождж. Эндлер ступіў адзін крок і нагнуўся.

— Назад!—крыкнуў тоўсты пан і наступіў на пэдаль.

Эндлер рашуча і спакойна падняў нешта цяжкае і кінуў яго ў чырвоны насьмешлівы твар, які разам з машынай крануўся ўперад. Нешта трэснула, як шкло. Руль закруціўся, нешта трэснула і запахла гарэлай скурай.

Гэнрых Эндлер адчуваў сябе зусім спакойна, калі зьявілася паліцыя. Ён моўчкі дазволіў зьвязаць сабе рукі на сьпіне.

Пераклад з нямецкае *А. Мардвілкі.*

# ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ

## БУДУЕМ СВОЙ ГАНДЛЁВЫ ФЛЁТ

Забіўка паль паравым молатам



Баржабудаўнічая верф на рацэ Сож у Крычаве



Фото Семенякі

Лясная прыстань Бумкомбіната сязьбуд на рацэ Сязь



## ПАВОДКА Ў МЕНСКУ





[illegible]ьлэва: загарадка, якая закрывае доступ вадзе на электрастанцыю з боку савецкай вуліцы

Дзяжурныя лодкі



Адзін з ліхтароў устаноўленых для асьвятленьня ракі на начны час



Садова-набярэжная вуліца залітая вадой



Дзяжурны пажарны пост на мосьце

Фото І. Салавейчыка

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ КІТАЙСКІ КОЛГАС ПЕРАМОГА

(ВІЦЕБШЧЫНА)



Лі-Вун-Лін лепшы ўдарнік мельнік



Фото Ге-Гурвіча

Палявод знаёміць калгасьнікаў з падзеямі ў Кітаі па газ. „Віцебскі Пралетары“



Заняткі ячэйкі АСО



Калгасьнік кітаец перакладае старшыні калгасу плякат у ленінскім кутку.



Рамонт с.-г. інвэнтара



Падрыхтоўка рам для парнікоў

**Пролетарыят знайшоў у савецкім ладзе ключ да правільнага вырашэньня нацыянальнага пытаньня**

СТАЛІН.

Нарыс УС. ШЫДЛОЎСКАГА

# ДВАНАЦЦАЦЬ

Калі патанулі ў змроку вечару пакрытыя сьнегам разложыстыя палі, бальшаковыя дарогі і аблыганыя ветрам беласьнежныя стрэхі будынкаў, калі ў хатах замігалі цьмяныя агні, вырываючыся праз замёрзлыя шыбы на вуліцу, да Азаронка пачыналі сыходзіцца колгасьнікі і колгасьніцы.

Азаронак стары і актыўны колгасьнік. Хата ў яго вялікая, дык вось і загадалі сабрацца да яго на сход.

У 8 гадзін вечару, калі сабраліся ўсе колгасьнікі аднаго з буйнейшых аддзяленьняў колгасу „Бальшавіка Беларусі"—сяла Родні, пачаўся сход.

Цьмяна гарэла пяцілінейная лямпа, кідаючы рудыя ахапкі праменьняў на працавітыя, строгія і клапатлівыя твары колгасьнікаў і колгасьніц, якія расьселіся на сасновых услонах і чакалі аб чым будуць гаварыць.

Гутарка была кароткая. Прадстаўнік з Менску гаварыў аб конкурсе „Праўды", аб рабоце колгасу і аб выданьні насьценгазэт, задача якіх—змагацца за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў.

І пастанова была кароткая: уключыцца ў конкурс „Праўды". Абралі рэдкалегію з 5 колгасьнікаў. Рэдактарам—камуніста Янку Кавалёва. І прыступілі да рэгулярнага выданьня газэты ў аддзяленьні колгасу Родня.

У колгасе раней выдавалася насьценгазэта, якая несыстэматычна і нерэгулярна ад сьвята да сьвята апраналася ў новыя допісы і артыкулы, напісаныя па заказу настаўнікамі, альбо каапэратарамі, ці яшчэ якімі-небудзь „штатнымі" дапісчыкамі. Шырокія масы колгасьнікаў прымалі вельмі малы ўдзел у газэце. Яна ня была апэрацыйнай, не зьяўлялася зброяй у руках партыйнай ячэйкі за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў.

Так цягнулася справа. Насьценгазэта вісела на сьцяне ў праўленьні колгасу, запыленая і заседжаная мухамі і ніхто не зьвяртаў на яе ўвагі.

Але калі „Праўда" абвясьціла конкурс нізавых газэт на лепшую работу па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў, калі позьняй весеньню 1931 года залёталі першыя сьняжынкі, калі разгулялася зіма, у рабоце насьценгазэты адбыўся пералом.

Насьценгазэта—ільлічоўка „Колгасьнік" адразу выступіла з перадавым артыкулам „За рэалізацыю пастаноў пленумаў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў". Вакол газэты арганізавалі селькораў і газэта стала жывою, злобадзённаю, цікаваю. Стала арганізатарам колгасьнікаў на барацьбу за рэалізацыю 6 умоў т. Сталіна ў колгаснай вытворчасьці.

Але „Бальшавік Беларусі" гэта не адна Родня. „Бальшавік Беларусі" займае цэлы Раднянскі сельсавет, аб'ядноўвае 621 бядняцка-серадняцкую гаспадарку, мае 5300 *га* зямлі, мае 19 аддзяленьняў, мае птушкаводную і сьвіную фэрму. Адной газэты мала. Адна газэта ня зможа ахапіць усяго жыцьця гаспадаркі і ня ўсе яе змогуць пачытаць.

На сходзе сельпарткому абгаварылі гэта пытаньне і пастанавілі выдаваць насьценгазэты ў 11 буйнейшых аддзяленьнях колгасу і на сьвіной фэрме. Пастанову адразу правялі ў жыцьцё. Абралі рэдкалегіі і 12 насьценгазэт пачалі змагацца за арганізацыйную і гаспадарчую моц колгасу.

* * *

Было...

Разгорталіся хлебазагатоўкі. Дзяржаўныя склады, элеватары напаўняліся хлебам. Па роўных, крывых, гразкіх, выбоістых, мёрзлых і санных дарогах ішлі чырвоныя абозы з жытам, пшаніцай, бульбай, ільном. Але ніводная фурманка ня ішла з колгасу „Бальшавік Беларусі". У кулацка-спажывецкіх і ядоцкіх настроях плавала праўленьне колгасу. А старшыня колгасу Пасрэднікаў заявіў:

— Нікому я нічога не павязу... А калі ў нас ня хопіць, дык хто нам павязе?..

Насьценгазэта прабрала такога „клапатлівага гаспадара".

Бюро сельпарткому своечасова рэагавала на сыгналы газэты і дало адпор кулацка-спажывецкім настроям. Зьмянілі старшыню колгасу. Але справа мала палепшылася. Адгалоскі Пасрэднікавага гаспадараньня яшчэ знаходзілі сваё месца ў колгасе. Насьценгазэта павяла барацьбу з такімі настроямі, мабілізавала колгасьнікаў на ліквідацыю прарыву ў хлебазагатоўках. У выніку плян хлебазагатовак па колгасу выкана765ны на 100,1 проц.

Было...

У аддзяленьне колгасу „Якубаўка" пралез індывідуальна абкладзены Нікіфарэнка, які потым пралез у брыгадзіры і быў у кіраўніцтве колгасу. Ён вёў падрыўную кулацкую работу. Згнаіў на дажджы 1000 пудоў саломы, 2500 пудоў бульбы і 200 пудоў канапель.

У колгасе прытуліліся, зьмяніўшы сваю афарбоўку былыя жандары, кулакі, шкоднікі, апартуністы, якія сваёй работай у колгасе падрывалі яго моц.

Толькі гэтым можна вытлумачыць той факт, што ў колгасе ў час малацьбы ў малатарню разам са снапамі папаў кавалак жалеза, які вывёў са строю малатарню, факт, які быў накіраваны на зрыў малацьбы ў колгасе.



Прадстаўнік Францыі Тардье гаворыць прамову на канфэрэнцыі па разброеньню ў Жэнэве.



Ад'езд савецкай дэлегацыі ў Жэнэву. Тав. Літвінаў на пэроне Б.-Б. вакзалу.

Насьценныя газэты і селькоры выкрылі ўсе гэтыя кулацкія махінацыі, сарвалі маскі з падкулачнікаў, паказалі сапраўдны іх твар.

Хібы, недахопы, недарэчнасьці ў рабоце колгасу пры актыўнай дапамозе насьценгазэт і селькораў пад кіраўніцтвам партячэйкі паступова ліквідуюцца і колгас моцна становіцца на ногі. Расьце і пашыраецца колгасная гаспадарка. На сёньняшні дзень у колгасе ёсьць 623 капі, 221 карова, ёсьць сьвіная фэрма, якая зьяўляецца гонарам колгасу „Бальшавік Беларусі“.

Сярод поля на вотшыбе стаяць лоўгія драўляныя будынкі. Гэта сьвінарнікі. Ад новых сасновых сьцен вее сьвежасьцю і пахам смалы. Крыху з боку пабудавана кухня, у якой вараць корм для сьвіней і потым разьліваюць у вёдры і разносяць па сьвінарніках.

Фэрма гэта яшчэ маладая. Пабудавана яна зусім нядаўна. Але яна зьяўляецца аднэй з узорных фэрм у Клімавіцкім раёне. Рэдактар насьценгазэты т. Шынгароў расказвае, што адыход маладняку на фэрме даведзены да мінімуму. Ліквідавана абязьлічка ў рабоце. Мінулай восеньню на фэрму была залучыла эпізоотыя. Але дзякуючы пільнасьці адміністрацыі і работнікаў фэрмы яна хутка была ліквідавана, ня прынёсшы асаблівай шкоды. За хворымі сьвіньнямі даглядалі ўважліва, начэй ня спалі, здаровым сьвіням прывіўку рабілі і не дазволілі эпізоотыі гаспадарыць у колгасным сьвінарніку. Загадчык фэрмы т. Буракоў з усёй аддавасьцю працаваў, каб не дапусьціць пашырэньня хваробы.

— Колькі работы было. А колькі клопату... Я ня мог спакойна спаць. Па некалькі разоў сярод ночы хадзіў у сьвінарнікі. І ўсё-такі ўдалося захаваць сьвіней... А цяпер нічагуткі!.. Добра гадуюцца!—расказвае т. Буракоў і дадае:—мы не дазволім, каб пашасьць гаспадарыла ў нас!

Сьвінаркі звонячы вёдрамі разьліваюць у карыты сьвіням ежу. Ударніцы Філіпенка і Баброва, якія за ўзорную работу на фэрме прэміраваны, пільна даглядаюць сьвіней.

На фэрме працуе 17 чалавек. Большасьць з іх маладыя дзяўчаты-комсамолкі, старанныя, любяць сваю работу.

Усіх сьвіней на фэрме 314, з якіх 195 дарослых і 119 штук маладняку. Сярод іх 159 сьвінаматак.

Сьвінарнікі пабудаваны сьветлыя, прасторныя, з вокнамі. У сярэдзіне стаяць чыгунныя печы для ацяпленьня.

У пакоі, дзе адпачываюць працаўнікі фэрмы вісіць насьценгазэта „За сацыялістычную жывёлагадоўлю“. Ярка размалёваны загаловак „Будзем змагацца за тону апаросу“ адразу кідаецца ў вочы.

— Пакуль ня было насьценгазэты мы ня ведалі пра тону апаросу, а цяпер мяркуем самі на сваёй фэрме гадаваць парасят з аднаго апаросу так, каб праз паўгода яны далі тону мяса. І выгадуем!.. Прыкладзем усе сілы, а выгадуем!—гавораць сьвінаркі-комсамолкі.

* * *

Кружыцца сьнег. Вецер намятае гурбы каля будынкаў.

За сумётамі сьнягоў, за марозамі хаваецца кіпучае жыцьцё, творацца новыя нябачаныя справы. Сяло Родня гэта цэнтральнае аддзяленьне колгасу, у якім знаходзіцца праўленьне колгасу, ШКМ, сьвіная фэрма, сельсавет, пошта, яўрэйская школа, каапэрацыя і г. д.

У колгасе ідзе вывазка дроў, узмоцненымі тэмпамі заканчваюцца загатоўкі ўсіх відаў.

Сьпяшаюцца жанчыны церці лён. „Лепей недасьпім, а дзяржаве трэба доўг аддаць“,—разважаюць колгасьніцы пры рабоце. У адзнаку 10-й райпартканфэрэнцыі, „Бальшавік Беларусі“ накіраваў у Клімавічы чырвоны абоз ільнавалакна.

Адыходніцтва ў колгасе організавана добра. Заключан дагавар з Днепрапятроўскім заводам імя Леніна і Пятроўскага і з Гарлоўскім шахтакіраўніцтвам. 286 мужчын і 135 жанчын пайшлі на завод і ў шахты.

Пасьля работы зьбяруцца колгасьнікі каля насьценгазэты і разважаюць.

— Добрая рэч газэціна... Вунь Марыну, як працягнулі, дык нябось пайшла разам з другімі церці лён, не засядзелася ў хаце.

— Дык яно-ж цяпер конкурс „Праўды“ праходзіць, дык ня толькі Марыну трэба ўзяць за бакі. Яшчэ ёсьць такія!..

І плывуць гутаркі пра газэту, пра работу колгасную. Мабілізуюцца колгасьнікі на зьнішчэньне недахопаў у рабоце.

А на вуліцы сьнег. Лётаюць сарокі на прыгуменьні і гудзе халодны вецер, заплятаючыся паміж стрэх.



**К XV гадавіне Кастрычніка заканчваецца пабудова 10-павярховага будынку Дому Ураду БССР у Менску.**

М. ЧЫШЭВІЧ

# ВЫНІКІ зімовай РАБОТЫ


Сэмінар на ф-цы „Кастрычнік“ (Менск) па падрыхтоўцы масавых працаўнікоў фізкультуры для фабрыкі.

Пастанова аб'яднанага пасяджэньня прэзыдыуму ВСФК Саюзу ССР і ВСФК РСФСР ад 26 студзеня 1932 г. па пытаньні аб ходзе масавай вучобы па комплексу значка „Гатоў да працы і абароны“: для савецкага фізкультурнага руху мае гістарычнае значэньне.

З вялікай выразнасьцю і яскравасьцю выяўлены і прааналізаваны асноўныя прычыны зрыва масавай зімовай вучобы.

Фізкультурная організацыя Беларусі таксама мела цэлы шэраг зрываў зімовай фізкультурнай вучобы (Віцебск, які толькі за апошні час мае зрух у вучобе па комплексу значка; Рэчыца, дзе зусім сорвана вучоба на лыжах).

Беларуская фізкультурная організацыя за зімовы сэзон 1932 г. павінна была мець здаўшых нормы па лыжах 32 тыс. Гэтую лічбу выканалі на 42 тыс. 500 чал.

Лепшымі організацыямі па выкананьні контрольных лічб вучобы па лыжах ішоў Менск і Гомель. З раёнаў Койданава, Жлобін, Слуцк. Менская організацыя мела контрольную лічбу па здачы лыжных норм 6000 чал., здала 11156 чал. Уся праца па лыжнай вучобе праводзілася непасрэдна на прадпрыемствах гораду. Перадавыя колектывы Менску: завод імя Варашылава, завод „Ударнік“, „Комунар“, Шчотачная фабрыка, ф-ка „Усход“, Абутковая ф-ка і фабрыка „Кастрычнік“.

З вайсковых частак першым выканаў лічбы N каўполк. Менская організацыя мае на прадпрыемствах 80 фізкультурных гаспадарчаразрахунковых брыгад, сыстэматычна выконваючых і перавыконваючых прамфінпляны.

Усе гэтыя факты сьведчаць аб непарыўнай сувязі фізкультурнай організацыі з вытворчасьцю.

Гомель па здачы норм ішоў другім па Беларусі, ён выканаў заданьне на 120 проц. На заводзе „Пролетары“ ўведзена сыстэматычная вытворчая гімнастыка. Здалі поўнасьцю нормы на значок „Гатоў да працы і абароны“ 26 чалавек, з іх старшыня заўкому і сакратар партыйнага комітэту. На другім месцы па Гомелю—лесакомбінат, на якім таксама праводзіцца вытворчая гімнастыка. Здалі нормы па лыжах на комбінаце 150 чалавек Гомельскія фізкультурнікі паслалі 17 фізкультурных брыгад у прыгарадныя колгасы і саўгасы па падрыхтоўцы да трэцяй бальшавіцкай вясны і організацыі гуртком фізычнай культуры.

## ЗАДАЧЫ на вясеньня-летні сэзон

Перад фізкультурнай організацыяй Беларусі стаяць вялікія задачы на вясеньня-летні спартыўны сэзон. Неабходна разгарнуць масавую вучобу па комплексу значка „Гатоў да працы і абароны“ па летнім відам спорта: бег, прыжкі ўвышыню і даўжыню, кіданьне гранаты, пераход у працівагазе, язда на вэлёсыпэдзе, паравозка патроннай скрынкі, плаваньне і другія віды ўваходзячыя ў комплекс значка.

Для ахопу гэтымі відамі спорту, кожны колектыў фізкультуры, кожны раённы савет атрымалі контрольную лічбу ахопу здачы норм працоўнымі. Вакол лічб павінна быць разгорнута масавая праца,—па мэтоду соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва.

Кожны колектыў і раённыя саветы павінны праводзіць свае спартыўныя спаборніцтвы па комплексу значка „ГПА“ аддаючы максымум увагі прыцягненьню да здачы норм дарослых рабочых.

Організацыя масавай вучобы па значку павінна быць пастаўлена ў цэнтр увагі ўсіх спартыўных стадыёнаў і пляцовак.

Мы ня можам цярпець фактаў опортуністычных адносін да значка, што мае месца да апошняга часу сярод працаўнікоў спартыўных баз. Контрольныя лічбы па разгортваньні масавай работы па комплексу „Гатоў да працы і абароны“, пастаўленыя перад фізкультурным рухам павінны быць выкананы, і тая частка працы, якая кладзецца на нашыя базы,—павінна быць ажыцьцёўлена.

Фізкультурныя базы павінны цесна зьвязацца з вытворчымі колектывамі і дапамагчы ім разгарнуць масавую вучобу.

Для таго, каб вырашыць гэтую задачу, патрэбна ў першую чаргу ліквідаваць абязьлічку, маючую месца ў працы інструктарскіх колектываў, абслугоўваючых фізкультурныя базы. Для гэтага неабходна інструктароў перавесьці на зьдзельную працу, на гаспадарчы разрахунак, заключаўшы з імі індывідуальныя ўмовы, а на базах колектыўныя. Колектыў інструктароў на базе і індывыдуальныя інструктары павінны ўзяць на сябе конкрэтныя абавязкі: ахапіць здачай норм па летніх відах стольківа чалавек, па тэорытычных разьдзелах значка стольк-то, прапусьціць праз падрыхтоўку ўскоранымі мэтодамі такую-то колькасьць чалавек і г. д.

Умова з інструктарамі—адно з лепшых мерапрыемстваў для паляпшэньня якасьці працы ў колектывах фізкультуры.

Уся праца фізкультурных колектываў павінна накіравацца на 100 проц. ахоп рабочых здачай норм па комплексу „Гатоў да працы і абароны“.

## ХРОНІКА

Вышэйшы савет фізкультуры Беларусі організаваў курсы адказных сакратароў і організацыйных працаўнікоў, для раённых саветаў фізкультуры на 40 чалавек.

Курсы разьлічаны на два месяцы.

Усебеларускі спартыўны стадыён імя „Дзесяцігодзьдзя вызваленьня БССР ад белапалякаў“ прыступіў да падрыхтоўкі к летняму спартыўнаму сэзону. На стадыёне будуецца дом абароны, 2 запасных футбольных полі, дом адпачынку і цэлы шэраг атракцыёнаў. Уся праца стадыёну падначальваецца масавай вучобе па значку „Гатоў да працы і абароны“.

У першай палавіне лета 1932 г. будзе праводзіцца Ўсебеларуская спартакіяда, прысьвечаная падрыхтоўцы да сусьветнай спартакіяды 1933 году—сьвяту сканчэньня першай пяцігодкі ў чатыры гады.

На Беларусі здалі нормы па лыжах на значок „Гатоў да працы і абароны“ 42.502 чалавекі. На першым месцы Менск—здаўшых 11156 чал.

У Менску атрымліваюць значок „Гатоў да працы і абароны“ 1200 чалавек, якія здалі нормы на працягу 1931 году.

**НАМ ТРЭБА ВЫРАСЬЦІЦЬ НОВАЕ ПАКАЛЕНЬНЕ РАБОЧЫХ ЗДАРОВЫХ, ЖЫЦЬЦЯРАДАСНЫХ, ЗДОЛЬНЫХ УЗЬНЯЦЬ МАГУТНАСЬЦЬ САВЕЦКАЙ КРАІНЫ І АБАРАНІЦЬ ЯЕ ГРУДЗЬМІ АД ЗАМАХУ З БОКУ ВОРАГА**

**СТАЛІН**

# РАЗБРОЕНЬНЕ НА СЛОВАХ УЗБРОЕНЬНЕ НА СПРАВЕ

## НОВАЯ ПАЛАСА ПРАВАКАЦЫЙ У МАНЧЖУРЫІ

На працягу апошняга часу на тэрыторыі падначаленай уладзе новага манчжурскага ўраду, наглядаюцца ўсё больш частыя выпадкі падазроных белагвардзейскіх махінацый, якія ўзгоднены з дзеяньнямі манчжурскай паліцыі і суправаджаюцца акампанімэнтам белагвардзейскай і японскай прэсы.

Правакацыйная спроба ўзарваць мост КУЧ на рацэ Сунгары зьявілася нібы сыгналам, па якім ужо ня толькі мясцовая манчжурская ўлада, але і японскія газэты разгарнулі новую антысавецкую кампанію, выкарыстоўваючы для яе „падзеі“, інсцэніраваныя ў Манчжурыі.

Ня цяжка зразумець, што ўсе гэтыя агідныя правакацыйныя паведамленьні маюць сваёй мэтай кінуць вельмі змрочную цень на адносіны Японіі з невядомай нікому „нейкай краінай“, а іменна з Савецкім Саюзам.

Побач з паведамленьнямі аб „нейкай краіне“ сустракаюцца і іншыя „палітычныя канцэпцыі“. Так, напрыкад, газэта „Харбінскі час“, як гэта відаць з тэлеграмы з Хабараўску, якая сёньня публікуецца, падазравае ў арганізацыі выбухаў на КУЧ—аб'яднаныя інтрыгі „Ўсходняга аддзелу Комінтэрну, Чжан Сюэ-ляна і Гаміндана“.

Сапраўдная мэта і паходжаньне ўсёй гэтай правакацыйнай кампаніі добра ілюструюцца тым фактам, што зноў пушчаны ў ход фантастычныя паведамленьні аб дзейнасьці генэрала Ма. Гэты генэрал, як вядома, быў у пачатку манчжурскага канфлікту абвешчан „савецкім агентам“, які атрымлівае ад СССР ваенны рыштунак, і захоўваў гэту назву да тэй пары, пакуль ня было дакумантальна ўстаноўлена, што генэрал Ма атрымліваў зброю не ад каго іншага, **як ад японцаў**.

Падобна таму, як у свой час яўна фальшывыя чуткі аб снабжэньні генэрала Ма савецкай зброяй паслужылі падставай для пашырэньня японскай акупацыі і захвату Цыцыкара, пушчаныя зараз у зварот антысавецкія выдумкі павінны стварыць повад для **ўзмацненьня японскіх войск у Манчжурыі.** І сапраўды, якраз у пачатку красавіка, у момант разгару новай антысавецкай правакацыйнай кампаніі ў Харбіне, японскія газэты ў Токіё публікуюць камюніке ваеннага міністэрства аб тым, што **неабходна павялічыць колькасьць японскіх войск у Манчжурыі,** бо „новы ўрад пазбаўлен магчымасьці і сілы падтрымліваць парадак“. Калі-ж мець на ўвазе, што ў Манчжурыі ў хуткім часе чакаецца прыезд камісіі Лігі нацый, дык выкрыецца яшчэ адна прычына новых антысавецкіх правакацый у Манчжурыі.

Пры дапамозе гэтых прыёмаў японская ваеншчына хоча даць магчымасьць жэнэўскім гасьцям асабіста пераканацца ў тым, што **японскія акупацыйныя войскі, разам з белымі бандамі, зьяўляюцца тыповымі „вартавымі цывілізацыі“ ў Манчжурыі.** Уся гэта кампанія яскрава сьведчыць аб адным — што **іменна некаторыя японскія ваенныя колы хочуць парушыць мір, што іменна яны, сыстэматычна пасылаючы войскі ў Манчжурыю, мабілізуючы японскія новыя дывізіі, рыхтуюць далейшыя ваенныя дзеяньні.**

Але тыя, хто сьвядома абвастрае і без таго напружаную абстаноўку ў Манчжурыі, спадзяецца ўзарваць гэты парахавы пограб пры дапамозе правакацыі,—пралічацца.

**Савецкі Саюз не дазволіць авантурнікам і правакатарам зьбіць сябе з занятай ім з самага пачатку манчжурскага канфлікту цьвёрдай пазыцыі няўмешваньня,** з тых мірных пазыцый, на якіх ён стаіць у адпаведнасьці са сваёй замежнай палітыкай і ў інтарэсах працоўных ня толькі аднаго Савецкага Саюзу.



Ва ўсіх ангельскіх школах і коледжах уведзена абавязковае ваеннае навучаньне. Студэнты аднаго з коледжаў на практычных вайсковых занятках.



У Амстэрдаме налажан масавы выраб ваенных самалётаў. Зборка аднамесных самалётаў сыстэмы „Фокер“.



Як яны разбройваюцца. Зьверх магутны францускі бомбавоз прызначаны для начной бомбардыроўкі. Падымае груз у 4.800 кіло.

Выданьне Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі. Рэдактар МІХАСЬ ЧАРОТ

# ШАХМАТЫ № 6 (16)

Пад рэдакцыяй Я. КАМЯНЕЦКАГА

(З міжнароднага конкурсу „Чыр. Бел.“)



Задача № 44

Г. П. Калугін (Ленінград) (друкуецца ўпяршыню)

Мат у 2 хады



Задача № 45

Дэвіз „5“

Мат у 2 хады



Задача № 46

Дэвіз „АДВ“

Мат у 2 хады

## Лятучы конкурс разьвязваньняў шахматных задач

Задачы зьмешчаныя ў гэтым аддзеле складаюць наш лятучы конкурс разьвязваньняў.

Умовы конкурсу наступныя:

1. У конкурсе маюць права ўдзельнічаць усе жадаючыя.
2. Тэрмін дасылкі разьвязваньняў 2 тыдні, з дню выхаду часопісу.
3. Пры дасылцы разьвязваньняў, досыць указаць першы ход.
4. Усе правільна разьвязаўшыя гэтыя задачы атрымаюць прэміі (шах. літаратуру).

## V Усебеларускі шахматна-шашачны зьезд

Падрыхтоўчая работа да V зьезду заканчваецца, хоць зьезд па пастанове ЦК у сувязі з вясеньняй сяўбой адкладзен на ліпень.

Ва ўсіх гарадох і раёнах на буйнейшых прадпрыемствах праведзены фабрычна-заводзкія спаборніцтвы.

У Менску: на шорнай „Усход“, на гарбарні „Бальшавік“, на зав. „Комунар“, „Полымя рэволюцыі“, на абутковай, на хлебазаводзе і яго аддзяленьні, дзе арганізавана ўдарная гаспадарча-разьліковая брыгада імя V зьезду, на зав. Молатава (был. „Дрэваапрацоўшчык“) і г. д.

У Віцебску: на „Дзьвіне“, „Сьцяг Індустрыялізацыі“.

У Магілеве: на ф-цы штучнага шоўку, у чыгуначнікаў.

У Бабруйску: на комбінаце, на швэйнай імя Дзяржынскага і г. д.

У Барысаве на „Бярэзіне“.

Таксама добра праведзена падрыхтоўчая работа ў Полацку, Воршы, Гомелі, Лёзна, Рэчыцы, Сенна і г. д.

У сучасны момант ужо заканчваюцца агульна-гарадзкія спаборніцтвы.

## Вільгельм Лібкнэхт аб Карле Марксе як шахматыстым

Маркс быў вельмі добрым шашыстым. Ён дасяг ў гэтай гульні такой дасканаласьці, што у яго было амаль немагчыма выйграць партыю. Вельмі ахвотна гуляў Маркс таксама і ў шахматы. Аднак у гэтай гульні ён быў значна менш моцны. Старанна займаючыся шахматамі, ён імкнуўся напорыстымі атакамі і нечаканымі хадамі, компэнсаваць недастаткова глыбокае разуменьне гульні.

У пачатку пяцідзесятых гадоў у нашай эмігранцкай колёніі *) многа гулялі ў шахматы. Мы мелі шмат вольнага часу і пад кіраўніцтвам Вольфа, які ў бытнасьць сваю ў Парыжы сустракаўся з мацнейшымі шахматыстамі і таму-сяму навучыўся, мы ўзмоцнена штудыравалі „игру мудрецов“. Нярэдка справа даходзіла да жаркіх сутычак. Для праіграўшага ня было недастачы ў насьмешках. Часта ў часе самой гульні было вельмі многа вясёласьці і шуму. У „Model longinghouse“, дзе жыла большасьць з нас, у часе партыі навакол нас зьбіралася група ангельцаў, якія ўважліва сачылі за нашай гульнёй і пацяшаліся з нашых шумлівых і вясёлых звычаяў.

Аднойчы Маркс з трыумфам абвясьціў, што ён прыдумаў новы ход, пры дапамозе якога ён расправіцца з намі ўсімі. Выклік быў прыняты і сапраўды Маркс перамог нас усіх.

Паражэньні аднак нас таму-сяму навучылі, і мне ўдалося ў хуткім часе даць Марксу мат. Быў ужо позьні вечар, і Маркс злосна патрабаваў рэванша на наступную раніцу.

Дакладна а 11-й гадзіне — па лёнданскіх звычаях гэта вельмі рана — я быў у Маркса. Адразу-ж пачалася гульня. Марксу мінулай ноччу ўдалося знайсьці палепшаньне свайго варыянту і пасьля нядоўгай барацьбы я быў заціснут у ціскі, з якіх мне не ўдалося аслабаніцца. Я атрымаў мат і Маркс быў вельмі задаволен. Да яго вярнуўся добры настрой, ён папрасіў чаю і пару бутэрородаў. Пачалася новая партыя — на гэты раз выйграў я.

Так мы змагаліся з пераможным шчасьцем і зьмяняючымися настроямі, не пакідаючы сабе амаль часу для яды і часткова ўсьцішаючы голад бутэрбродамі з мясам і сырам, якія нам прыгатаўлялі Ленхэн **). Жонка Маркса заставалася нябачымай і ніхто з дзяцей не асьмельваўся паказацца. Змагаліся мы такім чынам — амаль без перапынкаў да поўначы, калі мне ўдалося выйграць у Маркса падрад дзьве партыі. Ён хацеў ува што-бы там ні было працягваць гульню, але Ленхэн—дыктатарша дому—катэгорычна заявіла: „Цяпер гульня спыняецца!“ — нам прышлося падпарадкавацца.

На другую раніцу я толькі ўстаў з ложку, раздаўся стук у дзьверы, і ў пакой увайшла Ленхэн.

— „Library“ — так звалі мяне дзеці, і Ленхэн таксама засвоіла гэты мой тытул, „абязмісьцерыўшы“ яго, г. эн. не дадаючы да яго слова „місьцер“. — Library,“—мая маці просіць вас не іграць больш з Маўрам ***) у шахматы. Пасьля проігрышу партыі ён стаў зусім нясьцерпным. І яна расказала мне, што дрэнны настрой Маркса, так прарваўся наверх, што яго жонка страціла ўсякае цярпеньне.

З таго часу я не іграў больш з Марксам у шахматы.

*) Карл Маркс і Вільгельм Лібкнэхт і інш. эмігрыравалі пасьля 1848 г. у Лёндан.

**) Дачка К. Маркса.

***) Клічка К. Маркса.

## Разьвязваньні шахматных задач

(Чырв. Беларусь № 20—21)

### ЗАДАЧА № 15

Дэвіз „Даеш 5 у 4“

1. Фb4—c4! пагроза 2. Фc4—f7 ×
1. . . . . . . Фf3 : e4! 2. Kc5—d3 ×!
1. . . . . . . Kf2 : e4! 2. g2—g3 ×!
1. . . . . . . Cc6 : e4! 2. Лa6—f6 ×!

Параўнайце з варыянтамі задачы № 11, дэвіз „Магнэс“ (разьвязваньне гл. „Чырвон. Беларусь“ № 2, 1932 г.).

1. Фc8—e6! пагроза 2. Фe6—c4 ×
1. . . . . . . Фf5 : e5 2. Лf6 — f4 ×
1. . . . . . . Kg6 : e5! 2. Лg8—g4 ×
1. . . . . . . Cc7 : e5! 2. Kf7 —d6 ×

Ці аднолькавы тэмы ў абодвых задачах, і якой яна лепш прадстаўлена?

Менск. Друк. імя Сталіна. Зак. № 972 2.000 экз. Галоўлітбел № 561

# СКОНЧЫМ ДА ТЭРМІНУ
# ПАБУДОВУ ДОМУ УРА



КОМСАМОЛЬСКАЯ БРЫГАДА
ІДЗЕ НА ПРАЦУ

фото ГЕ-ГУРВІЧА